

*ге́фкер*

# Каталёг выставы

# чыстае паперы

# З

# фондаў

## архіву

# Віленскага Беларускага Музэю

імя Івана Луцкевіча



הֶפְקֵר [ге́фкер] запучшаны, занядбаны, бяз догляду, нікому не належны, непатрэбная рэч

[Ідыш-беларускі слоўнік Астравуха, стр. 376–377].

Саўнд-трэк выставы:

запісы беларускай цішы розных местаў ды месцайкаў:



https://shorturl.at/HJgH9

# Зоя Коўш, 1911–1994

Юрыстка, грамадзкая дзяячка, ссыльная, кветкаводка



## Паштоўкі з надпісамі ј без

У літаратурным сусьвеце існуе рытуальная практыка падпісваньня кнігаў. Але менш вядома пра тое, што кніга зь інскрыптам (у тым ліку, аўтографам), трапляючы на другасны рынак, звычайна каштуе менш за непадпісаную.

У кантэксьце калекцыі, прадстаўленай на гэтай выставе, мы назіраем падобную зьяву: паштоўка па-беларуску ў першыя гады незалежнасьці была каштоўнасьцю сама па сабе, без патрэбы трывіялізацыі яе цёплымі словамі.

### У архіве:

Карэспандэнцыя, калекцыя паштовак, мэмуары, канспекты, вышыванкі, пабытовыя дакуманты.

## На выставе:

(Бры)каляж з кавалкаў паперы (зьверху ўніз і зьлева направа):

Адрэзак разварота лінаванага сшытка 28,5 × 9cm,

Адрэзак разварота лінаванага сшытка 20,5 × 13,5cm,

Квадрат зялёнае паперы 12 × 11,8cm,

Квадрат калькі 13,5 × 13,2cm,

Адрэзак разварота лінаванага сшытка 28,4 × 14cm,

Прамакатка ∼ 20 × 17cm,

Пазялянелая папера для лістоў 28,6 × 20,5cm,

Лінаваны аркуш 14,1 × 20,4cm,

Тры аб’екты разам: папера для пакаваньня 27,6 × 20,7cm, выразка з капіркі 9,3 × 10,3 ды кавалак лінаванай паперы 6,8 × 14,3cm,

Пакунак з-пад лекаў 8,5 × 13,2cm,

Белая паперка 42,6 × 14,3cm,

Белая папера памурзаная 15 × 11,2cm,

Выразка зь лінаванай паперы 14,2 × 7,1cm,

Пакунак з паперай для лістоў 15,5 × 25,7cm

Квадрат лінаванай паперы 14,2 × 14cm,

Разварот паперы для лістоў 28,4 × 20,4cm,

Калька (папіросная папера) 7,8 × 4,5cm,

Складзены аркуш у кратку 17 × 20,5cm.

Паштоўкі:

Паштоўка з каляжам: прыгажуня вырываецца з царскай пяцірублёвай купюры

»Почаево: Успенская лавра. На память отъ Почаевской лавры«. Фотапаштоўка.

Пейзаж. Беларуская ССР. 1961 год. Друк: Звязда. Наклад 170 тыс. Цана 2 кап.

Расфарбаваная фотапаштоўка з кветкамі. Жэбковіч, Варшава.

Сшытак у кратку з прамакаткай у верхнім правым куце збора, 12 акрушаў, Коўня, фабрыка Яноня.

Сурвэтка 13 × 13cm.

# Галіна Качыньская, 1892–1991

Жыхарка Вільні



## Архіў штодзённасьці

У тэорыі, архівы зьяўляюцца аб’ектыўнымі сховішчамі мінулага. Музэі адбіраюць экспанаты, могуць сьпісаць рэчы са сваёй калекцыі, выкінуць — а тое, што патрапіла ў архіў, набывае права жыць у ім столькі, колькі жыве сам архіў. На практыцы, вядома, аб’ектыўнасьць архіву устае пад пытаньне як толькі мы намагаемся даведацца штосьці пра тых, нават існаваньне каторых нам невядома. Часьцей за ўсё архіў — пра штосьці »важнае«, як бы гэта не вызначалася. Мы нічога асабліва ня ведаем пра Галіну Качыньскую — яна жыла ў Вільні на Зьвярынцы, падпісвала фатаздымкі сям’і па расейску, калекцыянавала паштоўкі, ня мела спадкаемцаў. Струмень яе архіву патрапіў у нашу архіўную раку хутчэй выпадкова, але ж незваротна.

### У архіве:

Здымкі, фотаальбомы, паштоўкі, капялюшык

### На выставе:

Безыменная паштоўка з пэйзажам, адзін куток адарваны.

## Зоська Верас, 1892–1991

Грамадзкая дзяячка, журналістка, мэмуарыстка, кветкаводка



# Ці рэчы мусяць мець зьмест, каб быць каштоўнымі?

Або дакладней так: чым зьяўляецца вартасьць? Не існуе аб'ектыўна каштоўных рэчаў — усе яны набываюць вартасьць праз сэнсы, якія мы да іх дадаем.

Квадрацік белай паперы, упхнуты ў паз аўдывакасэты, каб запісаць інтэрв'ю Зоські Верас паўзверх радыва-спэктаклю — усё яшчэ пусты квадрацік паперы. Зьберагчы ці выкінуць?

### У архіве:

Карэспандэнцыя. Збор »Біяграфіі« (самадрук): здымкі й аўтады біяграфічныя матэрыялы аб беларускіх дзеячах Віленшчыны 1920–1970 гг. Інтэрв'ю (аўдыва).

### На выставе:

Аўдывазапіс.

# Аляксей Анішчык, 1912–2007



Настаўнік, грамадзкі дзеяч,
ссыльны, пісьменьнік,
сартоўшчык макулатуры

## Зьбіраючы будучыні

Масыўны архіў Аляксея Анішчыка складаецца ня толькі з запісаў, але й з вялізных аб'ёмаў пустой паперы, здабытай хутчэй за ўсё на пункце макулатурнай перапрацоўкі (для былога палітвязьня ў савецкія часу гэта было значна больш праўдападобным месцам падпрацоўкі, чым штосьці па прафэсіі). То бок, гэта рэчы, якія нехта ўжо сьпісаў са свайго жыцьця, але Аляксей іх забірае да дому.

Для будучых запісаў.

Шматлікія сшыткі ён пасьпеў сьпісаць, але такія аб'ёмы нават яму, відаць, былі не пад сілу. На гэтай выставе пустая папера таксама пра тое, што магло быць на ёй напісана, але ўжо ніколі ня будзе.

### У архіве:

Карэспандэнцыя. Чарнавікі прозы, вершаў, артыкулаў. Збор фотаздымкаў і жывапісу.

## На выставе:

Пэрфакарты для каталёгаў, 20,8 × 14,7cm. Карткі падвоенай пэрфарацыі, у якіх трэ было выразаць частку дзірак, можна было вытрасаць са спэцыяльнай скрыні групамі, па патрэбнай адзнацы. Карысталіся з 1960 да 1980-х ў археалёгіі, геалёгіі, мэдыцыне і г. д., дзе патрэбна клясіфікацыя. Карткі ды спэцыяльныя скрынкі для іх выраблялі ў Эстоніі (у Таліне й Тарту). На выставе макет тартускай скрынкі.

Аргаліт (дрэсьвянавалакністая пліта), 26 × 31,2cm, алей, алейны грунт gris ciel. Аргаліт выкарыстоўваўся як танная замена халсту для жывапісу.

Тры альбомы з выдранымі здымкамі:

1. Старонкі перакладзеныя калькай, засталіся куткі для здымкаў, даты й месты алоўкам: 1967, 1969, Nida. На адной са старонак здымак групы ў гарах. 42 × 33,5cm,
2. Штамп 1956 года. Старонкі пранумараваныя ад рукі. 23 × 33cm,
3. Тэкстыльная вокладка са стужкай-аздабленьнем. 20 × 27,5cm.

Друкавальная машынка »Москва« з нумарам абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі 86189, расейская клявіатура (але Анішчык прыстасаваўся друкаваць на ёй па-беларуску, выкарыстоўваючы I замест і). Разам з рэгістрацыйным нумарам трэ было здаваць прыклады друку сваёй машынкі, каб раздрукоўкі ў цыркуляцыі магчыма было ідэнтыфікаваць, знайсьці злачынца й пакараць.

Капіравальная папера з аддрукамі рукапісаў ды машынапісаў, ~ 29 × 21cm (памеры вар’ююцца), чорная й фіялетавая. 36 асобнікаў.

Папера для друку, 21 × 29,7cm. 12 асобнікаў.

Два аркушы з дэкалькаманіямі 31,1 × 42,1cm і 30,8 × 42,1cm.

Нататнік у кратку 13,9 × 8,4cm. Понінкаўская кардона-папяровая фабрыка (Украіна). Надпісы на вокладцы: »Напісаць Каўко« і »110 гадавіна Ластоўск[ага]« (1993).

Сшытак у самаробнай зялёнай вокладцы 18 × 28,5cm. На першых старонках пячатка Віленскага беларускага згуртаваньня палітычных вязьняў (старшыняй якога быў Анішчык).

Паштоўкі:

»Паштоўка да 125-годдзя нараджэння Янкі Купалы« (іншая паштоўка з гэтай сэрыі Вацлаў Ластоўскі). Прыватны выпуск Міхася Казлоўскага; мастак А. Кучко, фундатар: М. Апяцёнак. Маладэчна, 2007 год.

»Ніхай жыве Беларуская народная рэспубліка«, прыватны выпуск без пазнакі даты. Эмігранцкі друк.

»Франциск Скарина к 500-летию со дня рождения«, на адвароце прагашана штэмпелем першага дня ў ручную на менскім паштампце. Марка са Скарынам — адна з апошніх савецкіх марак, друкаваных шляхам мэтялаграфіі.

Паштоўка з нацыянальным арнамэнтам. Прыватны выпуск. Эмігранцкі друк.

Браты Луцкевічы: да стагодзьдзя »Грамады«. 1902–2002. Старыя Дарогі. Сядзіба музея выяўленчага мастацтва. Фонд Анатоля Белага. Прыватны выпуск Анатоля Белага.

»Віншуем са святам!« (паштоўка з калядоўшчыкамі), 1992 год. Мастак В. Валынец. Друк: Кавалер ООО.

»Su Naujais metais!«, 1974 год. Адрэзаны фрагмэнт з датай (для паўторнага выкарыстаньня). Мастак А. Віткаўскас. Друк: Mintis.

»З днём нараджэння!« 1992 год. Фота І. Дзергілёва. Выдаўца: Мінсувязі Рэспублікі Беларусь. Наклад 700 тыс. Ададраная марка СССР 1991 года, ўклеена беларуская марка 1992 года.

»Відарыс з плошчы Перамогі і праспекта Францішка Скарыны«. Паштоўка з камплекта з 12 асобнікаў. Складальнік Алег Дзярновіч. Выдавецтва »Беларусь«, 1993. Наклад 50 тыс.

Józef Piłsudski, marszałek polski. Мастак Ф. Седлецкі. Паштоўка з сэрыі мастацкіх выяваў Язэпа Пілсудзкага.

Адна з двух паловаў шэрай супэрвокладкі невядомае кнігі, 17,5 × 26,5cm.

Шматок паперы з літарамі Ж. О., 12,2 × 19,8cm.

Шматок паперы з чырвонай рыскай, 9,8 × 19cm.

Сшыткі:

Малінавага колеру вокладка ад сшытка на 96 аркушаў (друк: Крывы Рог, КРП; цана 41 кап., ГОСТ 13309–74) й аркушыкі.

Шэры сшытак у ліноўку й аркушыкі з палямі па чатырох баках.

Цёмна-шэры сшытак у кратку 96 аркушаў. Друк: Giedra. ГОСТ 13309–74. Цана 44 кап.

Сшытак для экзамінацыйных білетаў з выразанымі приступкай нумарамі, 96 арк.

Два сшыткі ў кратку.

Два сшыткі са здымкам на вокладцы. Коўня, дзяржаўная папяровая фабрыка / фабрыка імя І. Яноня, ГОСТ 13309–79 і –96.

Чырвоны сшытак у кратку 96 аркушаў.

Лінаваная папера са сшыткаў.

# Янка Тулейка, 1922–1993



Выхаванец Шнаркевічаў,
настаўнік

## Музэі

Разглядаючы бібліятэку Янкі Тулейкі нескладана заўважыць любоў да кнігаў і клопат — ахайныя агорткі на кожнай кнізе і асабісты штамп на тытульнай старонцы. Агортка ў гэтай канструкцыі — прыстасаваньне, якое ня мае вартасьці само па сабе.

Як музэі.

### У архіве:

Школьныя сшыткі, запісы гімназічных гульняў, малюнкі, кнігі з асобнай бібліятэкі.

### На выставе:

Самаробная вокладка для кніжкі, 24 × 17cm.

# Адольф Клімовіч, 1900–1970



Журналіст, палітык, пчаляр, арганіст

## Вабіць сама па сабе

Традыцыйная японская канцэпцыя *вабі-сабі* апісвае прыгажосьць недасканалага. Прамакатка — адна з тых шматлікіх, шматлікіх рэчаў, якія мы ствараем не разьлічваючы на іх эстэтычную якасьць. Але ці могуць рэчы быць не прыгожымі ў прынцыпе?

### У архіве:

Нотныя рукапісы, здымкі, пасьведчаньне аб сьмерці.

### На выставе:

Прамакатка (бібула) зь яскрава сінімі плямамі, ∼ 11 × 10cm.

# Язэп Шнаркевіч, 1888–1974

Настаўнік, вязень, пчаляр



## Пустэча як матэрыяльная спадчына

Ня раз заўважана, што адсутнасьць ёсьць каранёвай вартасьцю беларускай культуры. Тое, чым мы маглі быць, тое, што магло быць у нас займае часам самыя высокія пазыцыі айчыннага пантэону.

Агулам, нацыянальныя ідэі стагодзьдзямі будаваліся на адсутнасьці і зьнікненьні. Мабыць белыя палі нашага сьцягу таксама пра гэта — няма, ёсьць, няма.

### У архіве:

Турэмныя сшыткі с перакладамі, чарнавікі ўспамінаў.

### На выставе:

Невыкарыстаная прамакатка (бібула) у ніжнім левым куце збора 146 × 203cm.

# Надзея Шнаркевіч, 1897–1974



Настаўніца, фальклярыстка

## Дзеяньне ј не

Усё, што зрабіла Надзея Шнаркевіч, не пакінула матэрыяльнае спадчыны. І наадварот — гара чарнавікоў належыць рукапісам, якія ніколі не пабачылі друку. Як той казаў: недзяяньне ёсьць найвышэйшая форма, але кабы нічога ня рабіць, трэ рабіць ува весь час.

### У архіве:

Чарнавікі артыкулаў, успамінаў, запісы аб беларускіх школах, лісты, запісы фальклёру.

### На выставе:

Вэртыкальны склад аркушыкаў дастаных зь чырвонай вокладкі ад сшытку на 96 аркушаў ковенскай фабрыкі, 1967 году 17,5 × 21cm. Далей зьверху ўніз ідуць:

Аркуш са сшытку ў ліноўку з рамантычна ружовым полем 16,9 × 20,5cm.

Аркуш у кратку з маргіналіяй 17,5 × 20,4cm.

Складзены аркуш са сшытку ў ліноўку з рамантычна ружовым полем 16,8 × 20,7cm.

Трафарэт для пісьма на нелінаванай паперы 14,5 × 15,2cm (да яго дададзеная прыкладная палоўка аркуша са збору Вітушкі 14,9 × 21cm).

Аркуш са сшытка ў ліноўку з польскімі маргіналіямі й рамантычна ружовым полем 16,8 × 20,5cm.

Бібула з кропляй сіняга атраманту 14,1 × 20,2cm.

Польская міжваенная папера з ліловай ліноўкай 20 × 29,3cm.

Неверагодна крыва абрэзаная ковенскай фабрыкай Giedra вокладка ад сшытку, папера для якой была надрукаваная ў друкарні Požėlos, таксама ў Коўні, 33,8 × 20,6cm.

Аркуш у кратку з пазнакай 14,4 × 20,4.

# Наша Ніва, 1991–2016




Папяровая газэта

# Не згубіць, не схаваць, не стрымаць

Ужо не прачытаеш лістоў, дасыланых у Нашу Ніву 90-х і раздрукаваных на факсавай машыне, ці тых, каторыя прынтар перамалоў у чараду гіерогліфаў. Паводле *тэарэмы нехаваньня* ў квантавай фізыцы (гл. no-hiding theorem), інфармацыя ніколі не зьнікае. Можна яе хіба ня бачыць. І калі яе не відаць там, дзе было чакана, значыць, яна мусіць быць дзесьці яшчэ.

## У архіве:

Ліставаньне, чарнавікі, малюнкі, фота, судовыя пастановы.

## На выставе:

Факсы:

»Узьнікненьне руху Skinheads…« 20,9 × 29,9cm.

»Паважаны спадар Тылер! Берасьцейская арганізацыя Skinheads…« 20,9 × 28,3cm.

»Редакции газеты Наша Нива и их сторонникам…« 20,9 × 22,8cm.

»Незалежная беларуская газета Наша Ніва…« (рэкляма), 20,9 × 31,1cm.

Прынтэрныя капрызы й пусты пералік, 21 × 29,7cm, 4 асобнікі.

Андранік Антанян

# Факсы

Свой кароткі залаты век факс (у нашых краях ён прыйшоўся на 90-ыя пасьля таго, як традыцыйная наземная пошта перастала пасьпяваць за паскарэньнем тэмпаў жыцьця, а інтэрнэт і мабільная сувязь яшчэ заставаліся зьявай экзатычнай) пражыў інтэнсыўна ды забясьпечыў выбух камунікацыяў, маштабы якога пачынаю разумець толькі сёньня.

Памятаю, шакавала зь якой лёгкасьцю можна было пераслаць выяву або тэкст у іншы горад або на іншы кантынэнт: для гэтага дастаткова было ведаць усяго толькі нумар, на якім стаяў факсавы апарат, і мець жаданьне нешта выслаць. Як і кожная знакавая зьява эпохі, факсавы апарат меў і выразнае сымбалічнае значэньне: магчымасьць напісаць (нават у саматужнай) візытоўцы нумар факсу сур'ёзна падымала цябе ў вачох суразмоўцаў. Але лёгка прыйшло — хутка сышло. Факсграмы 1990-ых гадоў, якія дажылі да нашых дзён, у архівах выглядаюць нікчэмна: тэрмапапера настойліва разбурае ўсе знакі, якія даверылі ёй усяго якіх 30 гадоў таму. Чытэльнымі застаюцца толькі глосы і заўвагі на палёх зробленыя асадкамі.

На днях да мяне ў госьці зайшоў знаёмы, які да сярэдзіны 90-ых займаўся дробным чаўночным бізнэсам: вазіў на сабе зь Беларусі ў Літву канцтавары. Гэты занятак прыносіў не вялікі, але стабільны даход. Калі ён у чарговы раз ўспомніў, колькі можна было наварыць на перапродажы стрыжняў да шарыкавых асадак і страшнага плястыліну Калінкавіцкага заводу Бытавой Хіміі, я спытаўся, чаму ён выйшаў з гэтай ня вельмі пыльнай справы? »Ай, ведаеш, усе сталі ўсё часьцей прасіць нумар факсу, а ў мяне яго не было, таму вырашыў саскочыць. Чаму сабе яго не прыдбаў? Апарат каштаваў дзесьці 300 марак. За такія грошы можна было набыць дачу пад Вільняй«.

Сёньня садовы ўчастак каля сталіцы Літвы каштуе на рынку сотні тысяч, што сьведчыць пра рацыянальнасьць паводзінаў майго калегі, але ў сярэдзіне 90-ых нікому з майго кола не прыходзіла ў галаву ідэя зрабіць падобную інвэстыцыю: было шмат больш пільных задач і справаў, сьведчаньні пра якія незваротна зацягнула за сабою ў нябыт малочнага колеру рака тэрмапаперы.

## Алег Аблажэй, 1954–2016



Мастак

# Усе ненапісаныя творы ёсьць оды нічому

Думаючы пра няствораныя працы мастакоў, якіх мы любім, лёгка пачуць крыўду — нібы нас падманулі, нам чагосьць не дадалі. Наш мастак штосьці меў сказаць і не сказаў. Або ў выпадку згубы твору (таксама выпадак для Аблажэя, на ўсё жыцьцё якога наклаў адбітак пажар у майстэрні) — што да нас нешта не дайшло, што мусіла дайсьці. Бо мы адчуваем сябе (хай і нефармальнымі) спадкаемцамі і бачым спадчыну як сваю маёмасьць.

Людзям уласьціва мець эксплюататыўныя адносіны да мінулага. І дэкалянізацыя гэтых адносінаў адбываецца праз разуменьне, што мы ёсьць спадкаемцы нічога, мінулае нам ня віннае нічога. Што застаецца, калі мы нічога ня вінныя будучыні?

### У архіве:

Артыкулы, малюнкі, ілюстрацыі.

### На выставе:

Папера для маляваньня, скрутак 45,2 × 121cm.
Папера для пастэлі gris ciel, 32,5 × 50cm.

## Сяргей Вітушка, 1965–2012



Грамадзкі дзеяч, журналіст,
заснавальнік сучаснага ВБМ

# Дакрануцца да пустэчы

Сяржук ніколі не навучыўся чытаць брайлем — трэба было мець далікатныя падушачкі пальцаў, каб адчуць узгорачкі літар. Сьлепата ёсьць пагружэньне ў пустэчу на цалкам новым узроўні. Можна зрабіць маленькую сымуляцыю гэтага пагружэньня закрыўшы вочы. З непрывычкі пустэча можа здацца густой і цяжкай.

Пустэча дакранаецца да тых, хто дакранаецца да яе.

### У архіве:

Дакументы суполкі »Талака«, Віленскага Беларускага Музэю, рукапісы, ліставаньне.

### На выставе:

Папяровыя затычкі з аўдывакасэты (разгарнутая й працоўныя): 4cm × 4,5cm, адрыўкі ад звычайнай паперы для друку, 1990–2000-ыя. Затычкі былі патрэбныя каб перазапісываць аўдывакасэты. Звычайна ў касэтах стаяць пластыкавыя плясьцінкі. Калі іх выламаць, на касэту больш не запішаш новы гук. Для гэтага ўпіхвалі самаробныя затычкі са сьціркі, фэтру, паперы, або заклейвалі ліпкай стужкай. Затычкі ўзятыя з касэты з інтэрв’ю Зоські

Верас (гл. па qr-спасылцы на сьцяне, або на старонцы Музэю ў archive.org).

Набор для пісаньня брайлем: сшытак для запісаў 20 × 24,5cm, 27 аркушаў; блякнот для практыкаваньняў 20 × 6,9cm, 30 аркушаў; мэталёвая раскладная рамка для пісаньня брайлем 18,1 × 25 cm. Вільня: Друкарня Літоўскай грамады сляпых, 1971 г., цана 8 кап.

Бібліятэчная каталёжная картка безь ліноўкі (была ўкладзена ў сшытак для брайлю), 7,6×12,8cm.

Трафарэт з празрыстага плястыка, кірыліца для расейскай мовы (з чахлом), 18 × 34cm.

# Калгасы Памежжа, 1940–1950-ыя




## Дэндрахраналёгія

Канцэнтрычнымі кругамі праз дробныя лісточкі архіву прасочваюцца гады. Беларуская, расейская, польская, літоўская і тутэйшая, усе сустракаюцца ў дробнай бюракратыі ды гаспадарчых запісах 40-х і 50-х гадоў колішніх калгасаў Мядзельшчыны ды Пастаўшчыны. Віленскі натарыюс засьведчыў, што Марыяна атрымала 24 (неназваныя) рэчы ў спадчыну ад памерлай сваёй сястры Веранікі. Адэля мае 4 козачкі ды 15, зноў неназваных, прадстаўнікоў рагатага скоту. 16 траўня Сямён і Дзянёс [sic!] чысьцяць поле ад камянёў. Ядвіга, Паўліна, Ефрасіньня, Іван ды Аксенія сьпярша адкапваюць камяні, потым закопваюць ямы. Дэндрахраналёгія — навука пра падлік узросту дрэва па колькасьці колаў у яго камлі, але ж ня толькі. Кожнае кола беражэ ў сабе надвор'е свайго лета, ападкі, вільготнасьць, воблачнасьць.

### У архіве:

Кнігі, бюракратычныя ды гаспадарчыя запісы з калгасаў паўночна-заходняй часткі БССР, карэспандэнцыя мясцовых жыхароў, малюнак »Рака«, пустая папера.

### На выставе:

Пусты сшытак у кратку з аранжавай вокладкай, 12 акрушаў (ГОСТ 12063-66) ды тры прамакаткі. Друк 1975 года.

Скрынка з-пад абутку віцебскае фабрыкі »Чырвоны Кастрычнік« з надпісам »документы налогов«, у якой былі перададзеныя калгасныя дакуманты. 25 × 15 × 8cm, дашак 25 × 15 × 3.

Выставу сабралі:

Паўліна Вітушчанка (канцэпцыя й тэксты)
Ільля Магін (мантаж, дызайн, вёрстка, назва)
Андрэй Антонаў (матэрыялазнаўчы каментар, апісаньні)
Валанцёры ВБМ (адбор чыстае паперы з буйных фондаў)
Добрыя людзі сусьвету (запісы цішы)
Дэпартамэнт нацыянальных меншасьцяў Літвы
(грошы й маральная падтрымка)
Паэты, якія даслалі нам вершы для праекцыі на пусты скрутак
Аблажэя:
Юлія Цімафеева, Сяргей Прылуцкі, Альгерд Бахарэвіч, Ганна
Комар, Ванда Марцінш, тоні лашдэн

Здымкі ў каталёзе:

Коўш, Анішчык, Надзея Шнаркевіч, Верас, Тулейка, Клімовіч,
Качыньская — архіў ВБМ.
Аўтапартрэт Аблажэя са збора Крысьціны Балаховіч,
Язэпа Шнаркевіча з Вікіпедыі.

Даведнік па калекцыях архіву ВМБ:



https://shorturl.at/8VCht